# Забытая слава

## Кароткі агляд ваеннай гісторыі Беларусі

**(Працяг. Пачатак на 3-й стар.)**

Маленькая полацкая залога два тыдні мужна адбівалася, але драўляныя ўмацаванні гарэлі, а падмогі чакаць не было адкуль: гетман Мікалай Радзівіл меў пад рукой толькі тры з паловай тысячы вершнікаў. 15 лютага Полацк мусіў здацца. Пад акупацыяй апынулася амаль уся паўночная Беларусь. І хоць у студзені 1564 г. на полі каля вёскі Іванск, што пад Улаю, 10-тысячны корпус М.Радзівіла дазвання разбіў 30-тысячнае маскоўскае войска, Вялікае княства Літоўскае заставалася ў складаным становішчы. Акупанты нішчылі занятыя землі, выводзілі ў палон насельніцтва (толькі з Полацка — больш за 11 тысяч), а выбіць іх з Беларусі ды іншых тэрыторый не хапала сіл. Гэта было ці не галоўнай прычынай таго, што Вялікае княства Літоўскае пагадзілася аб'яднацца на канфедэратыўнай аснове з Польскім каралеўствам. Так у 1569 г. была ўтворана новая дзяржава — Рэч Паспалітая.

Аб'яднаныя сілы за 1579—1580 гг. вызвалілі Полацк, выгналі акупантаў з усіх раёнаў Беларусі і прымусілі Івана Грознага падпісаць у 1582 г. мірнае пагадненне, якое юрыдычна замацоўвала безвыніковасць агрэсіі. Так, за XVI стагоддзе ў беларускай гісторыі з прыкладна 40 ваенных гадоў каля 35 выпала на войны з Маскоўскай дзяржавай. І падчас амаль кожнай з іх тэатрам ваенных дзеянняў была Беларусь. Тым не менш народ не толькі вытрымаў гэтае жорсткае выпрабаванне на жыццяздольнасць, але яшчэ і высока ўзняў сваю гаспадарку ды культуру. На Беларусі з'явіліся першыя з усходнеславянскіх друкарняў, на старабеларускай мове друкаваўся Статут Вялікага княства Літоўскага — адзін з найбольш дасканалых кодэксаў феадальнага права Еўропы, а вырабы беларускіх рамеснікаў карысталіся попытам далёка за межамі краіны.

Пачатак XVII стагоддзя азначыўся новым працяглым канфліктам з Маскоўскай дзяржавай. У 1604 г. магнаты і шляхта Рэчы Паспалітай скарысталі падтрымку маскоўскага баярства ды ажыццявілі паход на Маскву. Беларусь стала плацдармам ваенных дзеянняў. У 1607 г. пачаўся другі паход на Маскву, а ў 1609 — кампанія па вяртанні Смаленска. Вярнуўшы гэты горад, войска Рэчы Паспалітай у 1610—1612 гг. валодала самой Масквой і прымусіла ў 1618 г. царскі ўрад падпісаць пагадненне аб замірэнні, паводле якога Вялікаму княству Літоўскаму былі вернуты Смаленск, Чарнігава-Северская зямля, гарады Дарагабуж, Мажайск, Вязьма. Так этнічна беларускія землі ўз'ядналіся з асноўнай тэрыторыяй краіны.

Але ўжо ў 1632 г. маскоўскі ўрад ізноў парушыў замірэнне ды кінуў войска на ўсходнюю і паўночную Беларусь. Галоўнай мэтай гэтай вайны быў захоп Смаленска, але, скарыстаўшы зручны момант (у Рэчы Паспалітай якраз памёр манарх), царскія ваяводы паспелі пагаспадарыць і ў іншых раёнах Беларусі: захапілі Невель, Себеж, Сураж, Друю, Мсціслаў, Крычаў, спрабавалі здабыць Полацк. Невялічкая залога Смаленска (2—3 тысячы) геаічна вытрымлівала аблогу 32-тысячнай маскоўскай раці. Калі ў смаленцаў скончыліся боезапасы і хлеб, ім дапамагалі жыхары Магілёва, якія забяспечвалі абаронцаў порахам, кулямі, усім неабходным. А на восень 1633 г. да Смаленска прыйшла нарэшце вайсковая дапамога. У хуткім часе ўся маскоўская армія была акружана і капітулявала. Такое буйное паражэнне царскіх ваявод клала канец вайне. Увесну 1634 г. абодва бакі падпісалі замірэнне на 20 год, якое пакідала нязменнымі ўсходнія межы беларуска-літоўскай дзяржавы.

Задоўга да канца вызначаных 20 год замірэння царскі ўрад пачаў актыўную падрыхтоўку да вялікай інтэрвенцыі. За мяжой агромністымі партыямі закуплялася зброя, вербаваліся вайсковыя кадры, у самой Маскоўскай дзяржаве ўтвараліся новыя палкі. І калі ў 1654 г. царскія ваяводы рушылі з войскам на Беларусь з трох напрамкаў, абараніцца не было як: маскоўскай арміі, якая з украінскімі казакамі налічвала 100 тысяч, супрацьстаяла войска Вялікага княства ў 10 тысяч ваяроў... Талент вялікага гетмана Я.Радзівіла дазволіў яму з гэтым маленькім корпусам нейкі час стрымліваць ворага і нават выйграць сутычкі, чыніць значную шкоду, аднак абараніць краіну ён не мог...

Займаючы горад за горадам, царскія войскі за першы год вайны захапілі беларускія землі па Дзвіну і Дняпро, а на наступны год акупавалі амаль усю Беларусь, захапілі сталіцу дзяржавы Вільню. Здаецца, ніколі больш краіна не перажывала такой трагедыі. Царскія ратнікі вялі вайну азіяцкімі метадамі: спальвалі гарады, забівалі ці выводзілі ў палон. Цар Аляксей Міхайлавіч ставіў праграму масавага вываду людзей з Беларусі ў Маскоўскую дзяржаву на дзяржаўны ўзровень. Планавалі набраць тут 300 тысяч чалавек. За палоннага была вызначана цана — некалькі рублёў. Іх прадавалі не толькі ў маскоўскіх гарадах, але і на азіяцкіх рынках. Заняволеных беларусаў маскоўскія баяры рабілі халопамі сваіх халопаў. Асобнай задачай царскага ўрада быў вывад беларускіх рамеснікаў.

З 1660 г. харугвы рэгулярнай арміі Рэчы Паспалітай разам з партызанамі пачалі крок за крокам выганяць акупантаў з Беларусі. Найбольш значнымі пераможнымі бітвамі былі разгром велізарнага войска маскоўскага ваяводы Хаванскага каля Ляхавіч і бітва з арміяй Далгарукага пад Крычавам у 1660 г., а праз год — разгром таго ж Хаванскага пад Кушлікамі на Полаччыне. Гэта стала пераломным этапам вайны. Жыхарства Беларусі, здавалася, было аб'яднана адной мэтай — хутчэй выгнаць з краіны акупантаў. Мяшчане шэрагу гарадоў (Дзісна, Магілёў, Себеж, Гомель і інш.) уздымалі паўстанні і без дапамогі войска знішчалі ці выганялі маскоўскія залогі. Царскі ўрад неўзабаве прапанаваў хутчэй падпісаць замірэнне, але Вялікае княства Літоўскае дамагалася вызвалення ўсіх сваіх тэрыторый. Пагроза з боку Турцыі і Крымскага ханства паскорыла заканчэнне вайны. Замірэнне, падпісанае ў студзені 1667 г. у Андрусаве паміж Мсціславам і Смаленскам, адлюстравала недавырашанасць канфлікту. Маскоўская дзяржава не змагла ўтрымаць усяго захопленага, а Рэч Паспалітая не здолела дамагчыся поўнай перамогі.

Для Беларусі гэтае трынаццацігадовае пабоішча стала нацыянальнай трагедыяй. Загінула ці было выведзена больш паловы насельніцтва, гарады і вёскі ператвораны ў папялішчы. Разбураную гаспадарку і дэмаграфічныя страты не ўдалося аднавіць і за стагоддзе. Аслабленая краіна так і не здолела выйсці з таго заняпаду. Знутры яе раз'ядалі рэлігійныя канфлікты, паланізацыя, а звонку цікаваў ды чакаў моманту, каб ухапіць здабычу, драпежны сусед — Расейская дзяржава.

### VII

Васемнаццатае стагоддзе ў гісторыі Беларусі ніяк не назавеш мірным ці хоць адносна спакойным. Хутчэй наадварот. Пачалося яно з Паўночнай вайны (1700—1721 гг.), у якой на беларускай зямлі зводзілі свае рахункі Расея і Швецыя. Адначасова разгараецца хатняя, "магнацкая" вайна паміж Сапегамі, Агінскімі, Вішнявецкімі і Радзівіламі, што дасталася ў спадчыну нашаму краю ад XVII стагоддзя. Сапегі шукалі падтрымкі ў шведскага караля Карла XII, а прадстаўнікі антысапегаўскай шляхецкай партыі (Агінскія і Вішнявецкія) дамаўляліся з Пятром І. Фактычна прыклад палітычнага нядбальства паказаў усім сам кароль Аўгуст II Моцны. Ён кідаўся ў абдымкі то да Пятра I, то, здраджваючы яму, да Карла XII. Прычым, спрабуючы заключыць сепаратны мір са Швецыяй, ён не спыніўся нават перад магчымасцю частковага падзелу Рэчы Паспалітай.

У рэшце рэшт у маі 1704 г. ствараецца Сандамірская канфедэрацыя прыхільнікаў Аўгуста II. Яна вырашае заключыць саюз з Расіяй і аб'явіць вайну Швецыі. Праз 2 месяцы ўзнікае другая канфедэрацыя, якая абвяшчае "свайго" караля, Станіслава Ляшчынскага, стаўленіка Карла XII. Чарговая канфрантацыя вядзе да трагедыі: прыцягненне знешніх сіл для вырашэння ўнутраных супярэчнасцей.

Восенню 1704 г. на Беларусь уступае амаль 60-тысячнае расейскае войска пад камандаваннем Рагніна. Шведы пераходзяць Нёман, разбураюць ваколіцы Гародні. Па беларускай зямлі пачынае гуляць смерч шведскага і расейскага спусташэння. Рэч Паспалітая сапраўды ператвараецца ў заезны двор і карчму для іншаземных войскаў.

"Магнацкія войны" не сціхаюць і на працягу 1710—1763 гг. Асабліва абвастрылася супрацьстаянне паміж Радзівіламі і Чартарыскімі падчас выбараў новага караля пасля смерці ў 1763 г. сына Аўгуста Моцнага — Аўгуста III. Яно ізноў прывяло на беларускія землі расейскія войскі, а з імі і спусташэнні (былі разбураны Нясвіж і Слуцк — радзівілаўскія рэзідэнцыі).

Ужо ў XVII ст. стала відавочным, што пашырэнне шляхецкай дэмакратыі пры паслабленні цэнтральнай каралеўскай улады вядзе да бязладдзя і разгулу анархіі ў РП. Шляхецкае права "Liberum Veto", па якім нават аднаму дэпутату дазвалялася сарваць сейм, практычна паралізоўвала дзейнасць гэтага вышэйшага органа ўлады. А сквапныя суседзі пільна ахоўвалі непарадак у РП. У расейска-прускім дагаворы 1764 г. меўся сакрэтны артыкул, паводле якога саюзнікі абавязваліся захоўваць у РП шляхецкія свабоды "вольныя выбары караля" і "Liberum Veto". Менавіта пад такімі ўмовамі яны з дапамогаю штыкоў дабіваюцца ўзвядзення на трон у 1764 г. свайго стаўленіка Станіслава-Аўгуста Панятоўскага.

У другой палове XVIII ст. "дзяжурнай" прычынай для ўмяшальніцтва ва ўнутраныя справы РП стала "дысідэнцкая" праблема — ураўненне ў правах некатолікаў ("дысідэнтаў") з католікамі. У 1767 г. пры падтрымцы Расеі і Прусіі ствараюцца ў Слуцку — праваслаўнымі, а ў Торуні — пратэстантамі свае канфедэрацыі. Мэтай іх было дасягненне роўнасці вернікаў усіх канфесій у РП. У 1768 г. сейм задаволіў іх памкненні. У сваю чаргу ў тым жа годзе праціўнікі такога рашэння арганізавалі ў Бары, што на Украіне, канфедэрацыю, якая аб'яднала шырокія колы шляхецкага саслоўя ўсёй РП. Значную падтрымку займелі барскія канфедэраты і на Беларусі. У пачатку верасня 1771 г. вялікі гетман літоўскі М.К.Агінскі, сабраўшы 2 тысячы прыхільнікаў-канфедэратаў, разбіў пад в.Бяздзеж каля Драгічына расейскі атрад палкоўніка Альбічава. Аднак трывала супрацьстаяць моцы расейскага войска канфедэрацкія атрады не змаглі. Да канца 1771 г. яны былі разбіты. Пасля гэтых падзей пад уздзеяннем абвастрыўшайся міжнароднай сітуацыі адбываецца першы падзел РП паміж Расейскай імперыяй, Прусіяй і Аўстрыяй. У 1772 г. да Расеі адыходзіць Усходняя Беларусь.

З мэтаю ўзмацнення сацыяльна-палітычнага і эканамічнага становішча РП, а таксама каб прадухіліць далейшыя магчымыя захопы тэрыторыі, Вялікі, альбо 4-гадовы, Сейм (1788—1792 гг.) прыняў шэраг прагрэсіўных рашэнняў. Па сутнасці яны былі накіраваныя на тое, каб вывесці РП з палітычнага крызісу і паставіць на шлях буржуазных рэформ. Найбольш яскрава гэтыя памкненні былі зафіксаваны ў Канстытуцыі 3 мая 1791 г. Скасаванне права "Liberum Veto", адмена выбарнасці караля — цяпер трон перадаваўся ў спадчыну, павелічэнне правоў мяшчанства — усё гэта істотна абмяжоўвала правы "залатой шляхецкай вольнасці". Але згодна з Канстытуцыяй 3 мая пераставаў існаваць гістарычны падзел дзяржавы на Карону (Польшчу) і ВКЛ. Павінна была існаваць адна дзяржава — Рэч Паспалітая. За яе манархам захоўваўся толькі адзін тытул — "кароль польскі". Амбіцыі беларускага дваранства былі гэтым істотна зачэплены. Цэнтралізацыя ўлады ў РП занепакоіла і Расею.

У 1792 г. Расея падтрымлівае частку беларуска-польскага магнацтва, якая аб'ядналася ў Таргавіцкую (ад назвы ўкраінскага мястэчка Таргавіцы) канфедэрацыю з мэтаю ліквідацыі рэфарматарскіх рашэнняў 4-гадовага Сейма. Пачынаецца кароткая (май — ліпень 1792 г.) вайна паміж Расеяй і РП. На тэрыторыі Беларусі адбыліся дзве найбольш буйныя бітвы: пад Мірам і Бярэсцем. Вайна скончылася паражэннем РП і прывяла да другога яе падзелу. Да Расеі адышлі беларускія землі прыкладна па лініі Друя — Пінск. Апошні, Гарадзенскі (1793 г.) Сейм РП адмяніў Канстытуцыю 3 мая.

Рэч Паспалітая, неаднаразова падзеленая паміж варожымі суседзямі, у канцы XVIII ст. апынулася перад магчымасцю свайго поўнага знікнення з палітычнай карты Еўропы. Аднак прагрэсіўныя колы афіцэрства, шляхты, святарства вырашаюць са зброяй у руках дабіцца сапраўднай незалежнасці, вярнуць страчаныя тэрыторыі і гонар зганьбаванай дзяржавы.

24 сакавіка 1974 г., з абвяшчэння ў Кракаве Акта паўстання, пачынаецца ўзброеная барацьба супраць захопнікаў пад лозунгам: "Воля, цэласць, незалежнасць". Узначальвае паўстанне генерал-лейтэнант Тадэвуш Касцюшка, па паходжанні беларускі шляхціч з-пад Бярэсця.

У красавіку 1794 г. да паўстання далучаецца Літва і Беларусь. 24 красавіка ў Вільні абвяшчаецца Акт паўстання ВКЛ. У Вільні ж ствараецца напачатку асобны ад Кароны вышэйшы орган па кіраўніцтву паўстаннем — "Найвышэйшая Літоўская рада". Галоўную ролю ў падрыхтоўцы паўстання і на яго пачатку адыгрываў Якуб Ясінскі, палкоўнік "літоўскага корпуса інжынераў". Ён быў прызначаны Радай галоўнакамандуючым літоўскім войскам. Пад яго кіраўніцтвам адбыўся захоп расейскага гарнізона ў Вільні (у ноч з 22-га на 23-е красавіка), а таксама бітвы з расейцамі на Віленшчыне пад Немянчынам і Палянамі, на Ашмяншчыне пад Соламі. У гэтых бітвах прынялі ўдзел беларускія сяляне-касінеры, узброеныя асаджанымі, як дзіды, косамі.

Характэрным для паўстання на Беларусі было ўжыванне партызанскіх (дыверсійных) формаў барацьбы (як і ў сярэдзіне XVII ст.) з расейскімі захопнікамі. Першая спроба дыверсійнага рэйду на Меншчыну была зроблена ў маі пад кіраўніцтвам былога падскарбія літоўскага Міхаіла Клеафаса Агінскага. Потым у жніўні Сцяпан (Стэфан) Грабоўскі з 2-тысячным атрадам робіць рэйд з-пад Вільні да Бабруйска, наводзячы паніку на расейскія гарнізоны. Прыкладна ў гэты ж час у другі раз Міхаіл Клеафас Агінскі непакоіць тылы расейскай арміі. Частка яго атрада, значную долю якога складалі касінеры, даходзіць да Дынабурга, спальвае яго прадмесце. Але пасля страты Вільні (12 жніўня) касцюшкаўскае паўстанне на Беларусі ідзе на спад. Пасля паражэння літоўска-польскага корпуса генерала Серакоўскага спачатку пад в.Крупчыцы каля Кобрына (16.IX), а на наступны дзень — пад Бярэсцем і адыходу рэштак літоўскага войска з-пад Гародні баявыя дзеянні пераносяцца на тэрыторыю Польшчы.

Спрэчкі паміж Варшавай і Вільняй аб кіраўніцтве паўстаннем у ВКЛ, адсутнасць адзінага і дасведчанага камандавання ім на Беларусі, частая яго змена, разнароднасць інтарэсаў шляхты і сялянства — усё гэта не магло не выклікаць яго паражэння. Простаму беларускаму селяніну, касінеру, гараджаніну ці збяднеламу шляхціцу прапаноўвалі біцца за інтарэсы блізкай, але не сваёй, "чужой Бацькаўшчыны". Сваю ж яшчэ трэба было знайсці і ўсвядоміць, каб потым біцца толькі за яе, не хочучы ніякай іншай. Усведамленне гэтага прыйдзе да лепшых сыноў Беларусі ўжо толькі ў XIX стагоддзі.

Апошнім сумным акордам XVIII стагоддзя стаў трэці падзел Рэчы Паспалітай 1795 года. Цяпер ужо ўсе беларускія землі былі праглынуты Расейскай імперыяй.

**(Працяг будзе.)**

Закулисный спорт

# Йозефа Блаттера за глаза называют "хамелеоном"

## Новый президент ФИФА — мастер закулисных интриг

Как известно, не так давно новым президентом международной федерации футбола был избран швейцарец Йозеф Блаттер, сменивший у руля этой организации бразильца Жоао Авеланжа. И уже успевший "отметиться" на этом посту. Во время чемпионата мира во Франции он стал предвестником несчастья для многих команд. Ведь именно после его "совета" арбитрам быть с игроками построже, на тех обрушилась лавина предупреждений и удалений по поводу и без повода. Так служители Фемиды пытались выслужиться перед новоиспеченным боссом. Так что же он за человек? Некоторые эпизоды из его деятельности предлагаем вашему вниманию.

В 1995 году казалось, что Блаттер основательно влип: чиновники из налогового ведомства уже предвкушали победу. У них были серьезные основания подозревать тогдашнего генерального секретаря ФИФА в утаивании своих доходов от налогообложения. Речь шла о кругленькой сумме 300 тысяч марок. Подобные махинации не редкость, но в данном случае расследование почему-то было прекращено.

Тогда Блаттера не привлекли к ответственности за неуплату налогов, а теперь оказалось невозможным доказать, что были допущены закулисные манипуляции при выборах президента ФИФА. По слухам, африканским национальным ассоциациям футбола за поддержку были выплачены пятьдесят тысяч долларов.

"Он гениальный режиссер событий, он дирижирует оркестром из-за кулис", — говорят о нем друзья. Недоброжелатели называют Блаттера "хамелеоном" и "темной лошадкой".

62-летний швейцарец действительно отличается гибкостью и изменчивостью. Поскольку на выборах ему были нужны голоса представителей африканского футбола, он, глазом не моргнув, пообещал им, что в 2006 году чемпионат мира по футболу состоится в Южной Африке. Как только его выбрали, новый президент ФИФА сказал: "Я никогда не обещал чемпионат мира в Южной Африке. Основные претенденты — Германия и Англия".

Блаттер уже четыре года назад проявил способность менять точку зрения и отпираться от своих слов. Он был противником бразильца Авеланжа и хотел провалить его на выборах. Но когда Блаттер убедился, что большинство — за Авеланжа, он ... стал его сторонником.

Как будет Йозеф Блаттер "рулить" могучей федерацией? Продолжит ли он диктаторский стиль руководства, свойственный предыдущему президенту ФИФА?

"Мы должны действовать быстрее, руководить в современном стиле. Я — практик. Я хочу, чтобы в ФИФА работали люди, которые уже имеют достижения и заслуги перед спортом", - говорит Блаттер. Он уже пообещал Мишелю Платини должность спортивного директора. Бывший футболист с осени "будет непосредственно заниматься всеми делами, связанными со спортсменами, тренерами, судьями и спортивными медиками".

Как будут применяться в федерации "демократические принципы", никто толком не знает. Жоао Авеланж сможет по-прежнему исполнять обязанности "репрезентативного президента" — на общественных началах. Одни только перелеты Авеланжа на самолетах первым классом, номера "люкс" в отелях, банкеты и подарки ежегодно обходились федерации в семьсот пятьдесят тысяч долларов. Расходы президента ФИФА контролировал только генеральный секретарь — Йозеф Блаттер.

Чтобы в дальнейшем такая система не претерпела радикальных изменений, Авеланж хочет сделать генеральным секретарем своего человека — Рикардо Тейшейру. Президент бразильской федерации футбола является "по совместительству" зятем Авеланжа. С тех пор как зять Авеланжа возглавляет бразильский футбол, страсти там разгораются не только на поле. Однажды Тейшейра при всех ударил по лицу президента одного из клубов, с налоговым ведомством у него в последнее время тоже наметился серьезный конфликт, но в остальном бразильский футбол в последние годы оставался на высоте. Так что такого ценного человека самое время выдвинуть в ФИФА.

Председатель немецкого футбольного союза Браун вовсе не в восторге от такой перспективы. Избрание Блаттера президентом ФИФА он охарактеризовал как "катастрофу": "Если нам не удастся установить сотрудничество, начнется полный разлад". На эти высказывания Йозеф Блаттер уже отреагировал: "Против таких "подсечек сзади" тоже нужно применять своего рода желтые и красные карточки".

В качестве гарантии демократических принципов в федерации Блаттер недавно объявил реформы в Исполнительном комитете. Дело в том, что в комитете, который состоит из 24 человек, голоса на выборах распределились не в его пользу. 14 из 24 членов комитета представляют европейский футбол, следовательно, они против — против Блаттера, поскольку голосовали за президента УЕФА Леннарта Юханссона. Потому-то он и хочет создать над исполнительным комитетом новый руководящий орган — Исполнительный совет.

Так что есть все основания предполагать, что и с новым президентом ФИФА будет руководствоваться своими представлениями о принципах демократии и будет устанавливать свои законы по собственному усмотрению.



Сітуацыя

## Мінск у цісках дэмаграфічнага крызісу

Дэмаграфічная сітуацыя ў сталіцы па-ранейшаму застаецца трывожнай. На 1 ліпеня ў Мінску зарэгістравана 1 мільён 715 тысяч 600 чалавек. Гэта на тысячу сто чалавек менш, чым у пачатку бягучага года.

За мінулае паўгоддзе на свет з'явіліся 6 тысяч 729 маленькіх мінчан. 7 тысяч 440 жыхароў сталіцы памёрлі. Праўда, у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года колькасць народжаных павялічылася на 1,1 працэнта. Паводле слоў намесніка начальніка ўпраўлення па працы і занятасці насельніцтва Мінгарвыканкама Аляксея Багамольскага, адмоўным з'яўляецца і "механічны" прырост насельніцтва ў сталіцы. Са студзеня па чэрвень у Мінск прыбылі крыху больш за 26 тысяч 700 чалавек, а выехалі — 27 тысяч.

**Аксана ПІВАВАР.**

Крымінал

## Перавозчыкі "свяцца" штодзённа

Штодзённа ў аператыўнай зводцы ўпраўлення ўнутраных спраў на транспарце МУС фіксуюцца факты затрымання перавозчыкаў рознага кантрабанднага грузу. У мінулыя выхадныя, напрыклад, гэты пералік папоўніўся шэрагам паведамленняў аб спыненні вывазу вялікай колькасці прадуктаў харчавання за межы рэспублікі з мэтай спекуляцыйнага перапродажу, а таксама перавозкі наркатычнай сыравіны і боепрыпасаў.

Напрыклад, супрацоўнікі транспартнай міліцыі на станцыі Беняконі затрымалі жыхарку Воранаўскага раёна са 100 пакетамі смятаны і 20 бутэлькамі гарэлкі. На станцыі Віцебск дзяжурны нарад таксама "адклаў" паездку мясцовай жыхаркі з запасам малочных прадуктаў коштам 3,5 мільёна рублёў.

У поездзе зносінамі Асіповічы — Светлагорск нарад патрульна-паставой службы Слуцкага аддзела ўнутраных спраў на транспарце "вылічыў" пасажыра з 300 грамамі макавай саломкі і канопляў ва ўпакоўцы. На станцыях Светлагорск і Лунінец таксама зафіксаваны аналагічныя факты. А ў Івацэвічах на вакзале ў мясцовага вадзіцеля, які збіраўся сесці ў поезд, пры асабістым наглядзе былі выяўлены патроны да баявой вінтоўкі. Увесь забаронены груз канфіскаваны, а затрыманым асобам прыйдзецца адказваць па законе.

**Таццяна СМІРНОВА, БелТА.**

Хочаце — верце, хочаце — не верце...

# Будучы тыдзень: зоркі прадказваюць

## Астрапсіхалагічны прагноз на перыяд з 24 па 30 жніўня

***Ад большасці гэты тыдзень запатрабуе праяўленняў пільнасці і ўважлівасці, здольнасці даверыцца натуральнаму цячэнню падзей, не фарсіруючы, але і не зацягваючы рэалізацыю ў жыццё задуманага. Нягледзячы на тое, што тыдзень спрыяльны для пачынанняў, надта бурную актыўнасць праяўляць трэба вельмі асцярожна. Пачнецца тыдзень даволі спакойна, але бліжэй да сярэдзіны агульная абстаноўка можа сур'ёзна накаліцца. І калі першая палова тыдня пакладзе канец усялякім адтэрміноўкам у справах, то ў другой палове верагодныя розныя непаладкі і нават аварыйнасць. Часцей за ўсё прычынамі гэтага з'явяцца недысцыплінаванасць, упартасць, а таксама нежаданне задумацца аб матывах і выніках сваіх крокаў. Затое скарыстанне афарызмаў "Беражонага Бог беражэ" і "Разумны ў гару не пойдзе, разумны гару абыдзе" дазволіць не толькі ўдала абмінуць розныя падкопы Фартуны, але і закласці трывалы падмурак будучых поспехаў. Найбольш напружанымі абяцаюць стаць 26, 28 і 29, а самымі паспяховымі — 24 і 27 жніўня.***

**АВЕН.** На працягу тыдня асцерагайцеся ўласнай раптоўнай актыўнасці і нястрымнай рызыкі. Спакой, чуйнасць і ўважлівасць дазволяць своечасова адмовіцца ад памылковых рашэнняў, дапамогуць правільна дзейнічаць у крытычных сітуацыях. Асабліва гэта датычыцца прафесійных заняткаў.

**ЦЯЛЕЦ.** Магчымыя няўвязкі ў сямейным жыцці і хатніх справах могуць ускладніць рэалізацыю каштоўных ініцыятыў і творчых напрацовак. Шчырая ж цеплыня і ўвага да патрэб партнёраў дапамогуць удала рэалізаваць некаторыя старыя планы і пашырыць круг сяброў. У другой палове тыдня пастарайцеся адмовіцца ад прэтэнзій да блізкіх людзей.

**БЛІЗНЯТЫ.** Вам, як нікому іншаму, прыйдзецца пільна адсочваць усё сказанае і пачутае. Нялішнім стане і перагляд кола знаёмых. Удала падабраныя словы і ўвага да меркаванняў блізкіх дазволяць вырашыць некаторыя старыя праблемы. Не трэба спяшацца з рознымі новаўвядзеннямі ў сямейных і хатніх справах у канцы тыдня.

**РАК.** Абавязкова звярніце ўвагу на фінансавы бок жыцця. Здолейце правільна ацаніць уласныя патрэбы і магчымасці, будзьце ўмераныя ў сваіх прэтэнзіях на ўзровень матэрыяльнага дабрабыту, і магчымыя бязладдзі абыдуць вас. У другой палове тыдня не выключаны невялікія паездкі і атрыманне цікавых навін.

**ЛЕЎ.** Рэзкія перапады настрою і залішняя крытычнасць здольны заблакіраваць неабходныя для дома ініцыятывы, звесці іх да простай мітусні. Любоў членаў сям'і і цяпло хатняга ачага дапамогуць многае і ў многім змяніць у лепшы бок. У другой палове тыдня пачуццё ўласнай перавагі над акружэннем будзе не лепшым памочнікам у самых розных справах.

**ДЗЕВА.** Недавер да ўласнай інтуіцыі можа ўскладніць выпрацоўку правільных меркаванняў у працэсе зносін, працы з інфармацыяй і ў навучанні. Ураўнаважанасць душы, тонкасць, увага і чуйнасць да вышэйназначанага працэсу паспрыяюць паспяховаму цячэнню спраў, звязаных з партнёрствам, спрэчкамі і ўменнем дамовіцца. Гэтыя поспехі не павінны зрабіцца падставай для пагарды ў адносінах да менш удачлівых блізкіх.

**ШАЛІ.** У першай палове тыдня набярыцеся цярпення і спакою, каб магчымыя змяненні ў важных планах не дазволілі прыняць неабмеркаваных і нясталых рашэнняў у адносінах да траты грошай і ўсялякіх набыццяў. Непарушнасць і ўраўнаважанасць дапамогуць правесці цэлы шэраг паспяховых дзеянняў у прафесійнай сферы. Яны ў сваю чаргу не павінны ўскружыць галаву ў канцы тыдня, справакаваўшы прэтэнзіі на больш высокае становішча ў калектыве.

**СКАРПІЁН.** Магчымыя казусы ў кар'ернай сферы не павінны пахіснуць спакой і непарушнасць пры падачы сябе альбо адмоўна адбіцца на настроі. Затое стрыманасць і сціпласць дазволяць прыгожа і паспяхова рэалізаваць пэўныя творчыя задумы і ініцыятывы. У другой палове тыдня не трэба вырашаць усялякія спрэчныя пытанні з сябрамі. Наогул давярцеся ў гэты час толькі сябе.

**СТРАЛЕЦ.** Змяненні ў ідэалах і жыццёвых прынцыпах, а таксама адмена магчымых падарожжаў могуць падштурхнуць да бурнага, але недарэчнага імкнення пакрытыкаваць акружаючых і нават умяшацца ў іх справы, між тым як пазіцыя назіральніка і ўвага да свайго ўнутранага свету дазволіць паспяхова папрацаваць на карысць дома і сям'і. У другой палове тыдня таксама пастарайцеся адмовіцца ад ролі павучаючага ўсіх.

**КАЗЯРОГ.** Магчымыя, але неабавязковыя непрыемнасці могуць вывесці са стану душэўнай раўнавагі і падштурхнуць да з'едлівай крытыкі сяброў, калег, а таксама сваіх і чужых планаў, у той час як няспешнасць у ацэнках і вывадах дазволіць пашырыць круг знаёмстваў і падарыць новыя веды і навыкі ў сферы зносін, навучання і працы з інфармацыяй. У другой палове тыдня залішняя прыдзірлівасць не лепшым чынам адаб'ецца на адносінах з сябрамі.

**ВАДАЛЕЙ.** Надта крытычныя адносіны да партнёраў і паступаючых ад іх прапаноў здольны знізіць важкасць і вашых ініцыятыў, а сціпласць і ўменне прыслухацца да парад блізкіх дапамогуць паспяхова ўладкаваць некаторыя справы ў фінансавай і маёмаснай сферы. Праўда, магчымая ўдача - не прычына неабходнасці дыктаваць уласныя правілы гульні ў тым жа партнёрстве ў другой палове тыдня.

**РЫБЫ.** Магчымыя перашкоды ў прафесійных занятках не павінны зрабіцца нагодай для адмаўлення ад выпрацаваных намераў і планаў. Куды карысней старанна разабрацца ў разліках і не спяшацца з дзеяннямі, а магчымыя заўвагі начальства і калег не прымаць у штыкі. Не забудзьце паклапаціцца і аб добрым самаадчуванні, дзеля гэтага не дапускайце празмернасцей.

**Аляксей КАРПІНСКІ.**

## Пятница, 21 августа

### БТ

**07.00** Доброе утро, Беларусь!
**08.00, 13.00, 15.00, 18.48, 00.20** Новости.
**08.15** "Сегодня с вами...".
**08.50** Социально-экономическая программа.
**09.05** "Переход". Передача для подростков.
**09.30** Социальная реабилитация инвалидов.
**10.00** Х/ф "Железная принцесса".
**11.05** "Фауст". Фрагменты оперы.
**11.50** "Интеграция — евростиль".
**12.25** Дивертисмент из балета П.И.Чайковского "Щелкунчик".
**13.10** "Три сестры". Фильм-спектакль. Ч. 2-я.
**14.30** Социально-экологическая программа.
**15.15** Видеокурс французского языка.
**15.40** Сериал "Девочка и океан".
**16.05** Белорусский меридиан. Усадьба Щорсы.
**16.30** "Риск-версия". Телеигра.
**17.00** Уроки Н.Новожиловой.
**17.30** Д/ф "Баллада о Свитязи".
**17.55** Футбол. Чемпионат Беларуси. "Неман" (Гродно) — "БАТЭ" (Борисов).
**19.55** Белорусский хит-парад.
**20.00** "Сегодня с вами..." Заслуженный деятель искусств Беларуси художник Зоя Литвинова.
**20.40** Колыбельная.
**21.00** Панорама.
**21.55** "Банка комиксов".
**22.15** Х/ф "Тень поцелуя" (Италия).
**23.50** Бездельник.
**00.35** Автопарк.
**00.45** "Видеопроцесс". Развлекательная программа.

### ОРТ

**08.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.45** Новости.
**08.15** Сериал "Роксолана — пленница султана".
**09.05** Клуб путешественников.
**09.55** Смак.
**10.15** Домашняя библиотека.
**10.25** Играй, гармонь любимая!
**11.15** Программа "Вместе".
**14.20** Фильм-сказка "Раз, два — горе не беда!" (1988 г.).
Сказочные приключения Ивана-солдата, противостоящего заморскому принцу и его механическому чудищу. По сценарию Юлия Кима. Режиссер М.Юзовский. В ролях А.Соколов, О.Табаков, М.Яковлева, С.Фарада, Н.Караченцов, Т.Пельтцер, Е.Санаева, Ю.Ким.
**15.55** Улица Сезам.
**16.25** "Чердачок Фруттис".
**17.20** Сериал "Роксолана — пленница султана".
**18.10** Здоровье.
**18.45** Поле чудес.
**19.45** Спокойной ночи, малыши!
**20.00** Время.
**20.40** Х/ф "Ко мне, Мухтар!" (1964 г.).
**22.20** Взгляд.
**23.05** Международный турнир по хоккею. Кубок "Спартака-98". Полуфинал.
**00.40** Детектив "Между двух огней".

### РТР

**06.30, 10.00, 16.00, 19.00, 23.00** Вести.
**07.00** Дежурная часть.
**07.20** Мир здоровья.
**07.24** На заметку.
**07.25** "Аленький цветочек", "Чемодан". Мультфильмы.
**08.10** Православный календарь.
**08.15** Старая квартира. Год 1957-й. Ч. 1-я.
**09.10** Сериал "Санта-Барбара".
**10.29** Промо.
**13.30** "Осторожно, обезьянки!", "Обезьянки и грабители", "Великая битва Слона с Китом". Мультфильмы.
**14.00** "Позвоните Кузе!".
**14.25** Легкая атлетика. Чемпионат Европы.
**15.00** "Башня".
**15.30** Сериал "Первые поцелуи".
**16.30** Комедия "Геркулес возвращается".
**17.55** "У всех на устах".
**18.25** "Марьина роща". Ток-сериал.
**19.30** Подробности.
**19.45** "Городок".
**20.20** Комедия "Бриллиантовая рука" (1968 г.).
**22.05** Акуна Матата.
**23.30** Дежурная часть.
**23.45** Легкая атлетика. Чемпионат Европы.
**00.45** Церемония закрытия Выборгского кинофестиваля "Окно в Европу".

### КУЛЬТУРА

**07.05, 13.00, 19.30, 23.00** Новости культуры.
**07.25** Академия спорта.
**07.45** "Театральная провинция?".
**08.10** "Интермеццо в стиле оперетты". Дирижер П.Коган.
**09.00, 11.00, 15.00, 17.00** Новости.
**09.05** Российский курьер.
**09.45** "Петербургские портреты".
**10.10** "Театр одного художника".
**10.30** Д/ф "Большой барьерный риф".
**11.05** "Сказка за сказкой". "Холодное железо".
**11.35** Дайте, дайте мне Раневскую.
**12.25** Симфонические миниатюры.
**12.40** "Время, портреты, судьбы".
**13.15** Вместе с Фафалей.
**13.30** Про фото.
**13.55** Концерт оркестра "Филармония наций".
**14.35** Кредо.
**14.50** "Тут шумят чужие города".
**15.05** Мультфильмы "Кармен", "Муравьишка-хвастунишка".
**15.50** "Лукоморье".
**16.10** "Русская усадьба".
**16.40** Мы были.
**17.05** "2003".
**17.10** Формат.
**17.25** Боярский двор.
**17.55** Кто мы?
**18.20** "Рожденный в праздник".
**19.15** Чудо-сказка.
**19.50** К 30-летию событий в Чехословакии. Документальная кинопрограмма.
**20.45** После новостей...
**21.05** Х/ф "Дневник для моих родителей". Фильм 3-й.

### НТВ

**05.00, 09.00** Сегодня утром.
**08.25** "Русский век".
**09.15** Телеигра "Ключи от форта Байяр" (Франция).
**11.00, 13.00, 15.00** Сегодня днем.
**11.25** "Старый телевизор".
**13.15** Сериал "Любовь и тайны Сансет Бич".
**14.00** Сериал "Красавчик".
**15.20** Дог-шоу. Я и моя собака.
**15.50** Мультфильмы "Ну, погоди!", "Великое закрытие".
**16.15** Сериал "Удивительные странствия Геракла".
**17.05** Криминал.
**17.15** Впрок.
**17.25** Футбольный клуб.
**18.00, 21.00** Сегодня вечером.
**18.40** Х/ф "Старики-разбойники".
**21.30** Мистический фильм "Носферату — призрак ночи".
**23.25** Шоу Николая Фоменко "Империя страсти".
**00.05** Ток-шоу "Сумерки".

### 8-й канал

**18.00** Программа Кеннета Копланда.
**18.30** Для детей "Пострелята".
**18.45** Сериал "Скарлетт".
**20.00** Аэробика "Новый Эдем".
**20.45** Сериал "Горец".
**21.45** Х/ф "Водный мир".


**Адрас рэдакцыі:**
**220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: (017) 229-28-71.**
**Тэл./факс рэкламнага аддзела: 229-29-04.**
**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**





Рэгістрацыйнае пасведчанне №246. Нумар газеты надрукаваны з дыяпазітываў у ПП "Мэджык". Адрас: г. Мінск, вул. В. Харужай, 13. Падпісаны ў друк у 21.00. Фармат А-2. Тыраж: суботні — 61050 экз., у другія дні — 55000 экз. Заказ №997